тэст проці тых, хто сілай хочэ задушыць голас беларускага народу.

Пад той час, як расейская армія чыніць гвалты над беларусамі, большэвіцкі урад устамі Троцкага заявіў на перэгаворах у Брэсьці, што прызнае права на самаазначэньне ня толькі адарваным ўжо ад Расеі народам, але і тым, каторые разрэзаны лініей фронту. Само сабой ясна, што гэта абнімае і раздзелены фронтам народ беларускі. Каб жэ гэта заява не асталася пустым зыкам, з Беларускай зямлі за фронтам павінны быць выведзены расейскіе войскі і павінны быць створэны такіе варункі, пры каторых ніякі гвалт ня мог бы звязаць народ беларускі пры выяўленьні яго волі.

Вестка ген. Гофмана, адкінуўшы яе сумную старану, мае для нас незвычайна вялікую вагу з другога пагляду: яна паказвае, што рух да волі, да незалежнага быту расьце і узмацовываецца і ў закордоннай Беларусі. Аб гэтым гаворыць факт бэларускага конгрэсу ў Мінску, факт апавешчэньня на тым конгрэсі жаданьня незалежнасьці,—ўрэшці, той сумны факт, што ворагі нашай незалежнасьці не маглі знайсьці ніякага іншага аружжа проці яе апрыч гвалту, апрыч штыкоў і кулемётаў...

Мы шчыра вітаем гэту новую праяву узросту нацыональнай сьвядомасьці беларусаў за ваенным фронтам і высказываем моцную веру, што дазнаны гвалт толькі узмацуе нацыональнае пачуцьцё нашага народу, толькі цясьней з'еднае беларускую дзевяцімільённую сям'ю, пакажэ ей, што яна павінна апірацца толькі на сваю сілу і паможэ тую сілу стварыць узіраючыся на прыклады нашых братоў украінцаў, фінляндцаў і другіх.

## Анастасія Біцэнко

*(некольki успамінаў).*

У чысьле расейскіх дэлегатаў, прынімаючых учасьце ў мірных перэгаворах у Брэст-Літоўску, ёсць імя адной кабеты: гэта—Анастасія Біцэнко. Хто яна, якіе яе заслугі для расейскай рэволюціі, за што на яе долю выпало заняць у гэтую важную гісторычную мінуту такое выдатнае становішчэ? Аб гэтым мала хто ведае с паміж шырокай публікі, асабліва з нашага боку фронту. Ведаюць аб ей мо' яе таварышы ў рэволюцыйнай рабоце,—тые, што разам з ею аддавалі ўсё, рызыкавалі ўсім для справы рэволюціі.

З адным с такіх людзей мы недаўна гутарылі на гэту тэму, і ён падзяліўся з намі сваімі ўспамінамі аб розных эпізодах з жыцьця А. Біцэнко.

„Першае мае спатканьне з А. Б.—разсказываў наш знаёмы—было ў такіх акалічнасьцях: у 1902 гаду прыехаў я ў партыйнай справе у Смаленск да выдатнага рэволюціонера, Макса Швэйцэра. Занімаў ён пекную кватэру. Габінэт яго быў устроен у гусьце паляўнічага. Тут на падлозе валяліся розные скуры дзікіх звяроў, на сьценах вісэлі рогі, рознае аружжэ і т. п. Рэч вядомая, што тут іграў ролю не густ самога гаспадара хаты, а ўсё гэта мело глыбейшы сэнс: паляўнічые заўсёды мелі славу людзей, найменей занімаўшыхся грамадзянскімі справамі, і царавы служкі, каліб прыпадкам напалі на сьлед выдатнага рэволюцыонера, пабачыўшы яго абстаноўку, маглі-бы лёгка збіцца з дарогі: тады ня думалі, каб паляўнічы апрыч дзікага звера могбы паляваць і на прэдстаўнікаў бюрократычнай ўласьці.

„У габінэт, дзе мы сядзелі, ўвайшла маладая кабета. Від яе не прэдстаўляў нічога цікавага. Апранута яна была звычайна, вельмі скромна, наагул робіла на пагляд уражэньне тыповай расейскай курсісткі. Хаця яны гутарылі с сабой на «вы» і гаварылі толькі аб дзеле, ды чуваць было, што іх злучае с сабой глыбокая сумпатыя. Кабета хадзіла па пакою і скора-скора гаварыла аб агульных справах; з яе вуст часта вылеталі словы: рэорганізаваць, рэорганізація, организація...

„Я пасьля даведаўся, што маладая кабета была выдатным членам ваенна-рэволюцыйнай организаціі пры партыі соцыялістаў-рэволюцыонераў...

„Прайшоў с тэй пары год. Наша грамада ў кватэры аднаго с таварышаў сабралася спаткаць Новы Год...

„У жыцьці рэволюцыонераў ёсць сваі рэволюцыйные сьвяты. С паміж супольных да ўсіх людзей сьвят выдатнае мейсцо занімае Новы Год. Ня гледзячы на канешную ў падпольным жыцьці конспірацію, ня гледзячы на небяспеку вялікшых сабраньняў, ня гледзячы на ўсё, рэволюцыонеры ў гэты адзін дзень у гаду любяць сабірацца грамадой. Тады робіцца падрахунак мінуўшага, будуюцца надзеі на будучыну, цяжкім уздохам успамінаюцца імёны недастаючых...

„Гаварылі тоасты. Пеялі рэволюцыйные песьні. Весяліліся, як веселяцца рэволюцыонеры...

„Нехта запрапанаваў, каб кожны расказаў аб самым страшным момэнці ў сваім жыцьці.

„Расказывалі.

„Гаварылі людзі, каторые многа—многа бачылі страшных рэчэй. Іншые з іх прынімалі учасьце не ў адным тэррорыстычным акце; былі тут і такіе, каторым быў вынесен сьмяротны прыгавор...

„Тут была і мая знаёмая с прошлага году, А. Біцэнко. Яна ўжо мела добрую славу ў рэволюцыйных кругах—славу энэргічнай і не знаўшай страху працоўніцы. Яна тады вела агітацію паміж салдатаў. Адна, без ніякай абароны, яна часта хадзіла на салдацкіе сходы, адбываўшыеся за 5 вёрст ад места. Там, за лесам, у адкрытым полі быў вялікі яр, каторы лічылі за самае баспечнае для гэткіх мітынгоў мейсцо.

„—Я перэжыла нешта страшнейшае ад страху сьмерці!—сказала раптам п. Біцэнко.

„Усе зацікавіліся. Пачалі слухаць. Пані Біцэнко расказывала:

„Адзін раз вечарам, як гэта ўжо было многа разоў, я адправілась на салдацкі мітынг за место. За лесам я прысела на камень адпачыць. Каля мяне сядзело некольkі салдатаў. Я маўчала. Яны пачалі між сабой гутарку. Гутарка была дзіўная: я ні слова не зразумела. Гаварылі яны на якімсь жаргоне. Той, каму здаралося спатыкацца с крымінальнымі ліхадзеямі, ведае, што яны маюць сваю услоўную мову, зразумелую для іх саміх, каторай ня можэ сцяміць чэлавек не пасьвячоны ў яе тайны. Падобным языком гаварылі салдаты. Нічога не разумеючы, я аднак сцяміла, што мне грозіць якаясь страшэнная небяспека. Мароз прабежаў па маім целе... Уцекаць не было магчымасьці — зловяць; бараніцца—адной проціў некольkі мужчын—так тама ня мело ніякага сэнсу, бо ведама, што беззашчытнасьць баронючайся ахвяры ешчэ болей распалівае звярыные інстыкты нападаючых... Я чэкала, што далей будзе...

Раптам мяне с тылу схвацілі якіесь сільные мужчынскіе рукі. Я момэнтальна сабрала ўсе сілы, вырвалася і абярнуўшыся перадам к салдатам, крыкнула на скольki магла грубым і сільным голасам: «Смірно!» Гэта ўсё сталося страшэнна хутка, не было часу думаць, мой крык вырваўся з маіх вуст без мысьлі аб тым, якіе будуць яго пасьледзтвы...

„Пасьледзтвы яго аказаліся для мяне неспадзеванымі. Пачуўшы неўспадзеўкі кліч «смірно!» салдаты, як загыпнотызаваные, выпраставаліся перада мной,—«станулі ва фронт». Як маланка, праз мозг мой прабегла шчасьлівая думка. Я, не трапіўшы ні сэкунды часу, звярнулася да салдатаў с прамовай... «Якіе вы людзі!—сказала я.—Вы ня людзі! Начальство вашае зрабіло з вас, людзей, машыны! Годзі аднаго кліча: «смірно!«—і вы забываецце аба ўсім... і т. д.—і т. д. Палілася агітацыйная прамова.

„Салдаты с начатку слухалі, слухалі... Пасьля адзін—другі атазваўся! «але, але! праўда!»... Сабралося іх болей. Усе слухалі і згаджаліся...

„Скончылося тым, што праводзілі мяне да места, абыйшліся са мной вельмі ласкава і з гэтай пары былі ўсе маімі добрымі прыяцелямі..

„Момэнт, каторы я тады ў лесі перажыла, быў самы страшны ў маім жыцьці!“ — закончыла свае апаведаньне п. Біцэнко.

(Далей будзе).

Ф. О.

## У Вільні і ваколіцах.

× **Беларускі тэатр.** У скорым часе ладзіцца першае ў гэтым сэзоне публічнае беларускае прэдстаўленьне ў салі Крэйнгеля (Людвісарская 2).

Праграму спектакля накажэм хутка. Беларуская Драматычная Дружына мае іграць новые, незнаные ешчэ для шырокай публікі п'есы.

× **З жыцьця таварыств.** Таварыство працаўнікоў штукарства выдае безработным артыстам субсыдіі. Звертацца: Віленская 20, кв. 3, ад 12 да 1 гадз. ў памешчэнні Т-ва.

× **Курсы літоўскай мовы** адкрываюцца 20 студнія ў гасподзі літоўскай гімназіі, В. Пагулянка 14.

× **Проці галаледзіцы.** Пасыпаць тротуары пяском ці попёлам павінен кожын гаспадар ці упраўляючый домам, каторые атказываюць за ўсе нешчасьця, якіе могуць здарыцца с прычыны неспаўненьня гэтага загаду. Яны павінны такжэ ачышчаць ад сьнегу часць вуліцы, сумежнай з іх зямлёй.

× **Нешчасьлівае здарэньне.** На Новагродзкай вул. каля д. № 94 якіесь сані наскачылі на 60 гад. старуху, Бэйлю Цвіліну, перэвярнулі яе і акалечылі. Ц., у каторай аказалась зламаная лапатка і раны на ўсім целе, скорая помач адвязла у Жыдоўскую бальніцу.

× Тэмпэратура. Найвышэйшая і найніжэйшая тэмпэратура за апошніе дні была (па Цэльсію):

| | найвыш. | найніж. |
|---|---|---|
| 14—15 | —10,8° | — 22° |
| 15—16 | — 5,7° | — 16,5° |
| 16—17 | — 1,7° | — 10,5° |

## Беларускі Календар на 1918 год. Вільня. (Друк. „Зніча“) стр. 40. Цэна 50 фэн.

Люблю нашы календары і з нецярпеньнем чэкаю іх паказаньня. Асабліва цікаўлюся беларускімі календарамі, дык і зьбіраю з году ў год іх экзэмпляры, што быццам прыдарожные слупы значаць узрост беларускай думкі.

Сёлетні беларускі календар таўсьцінёй ня можэ пахваліцца, аднак ня меней, але болей ад папярэдніх заслужывае на ўвагу шырокага грамадзянства. Адвярнуўшы акладку с князьскім гэрбам бытага літоўска-беларускага князьства, с шэраватых карт быццам с скіб ўзоранай плугам ральлі, пахне на нас бацькаўскай зямліцай, як пахнуць яна ўмее вясной, калі прачыхаецца ўся натура. Ужо ў часьці звычайнай, календарнай памешчэна стацьця: «Дзе мы жывём і колькі нас?», каторая сьведчыць, дзе асела наша беларуская сем'я і якая яна ўвелькі. Б. К. на 1918 год гэта адынае ў нас выдавецтва маючае таксама і «праваслаўные сьвяткі». Сьцяг культурных стацьцей пачынае „У 400-летнюю гадаўшчыну» В. Л-га. Гарачымі славамі паказывае тут аўтар вялікае значэньня перэкладу бібліі на беларускую мову, зробленага ў 1517 г. Фр. Скарынай. Аднак аўтар мыліцца пішучы, што перэклад і друкаваньня гэнай беларускай бібліі вышерадзіў нямецкіе перэклады. Дакумэнтамі можна паказаць, што ўжо да Лютэра было іх даволі шмат (праф. Э. Міхаэль падае 28!), што, ведама, ні ўчым ня зьменшывае літэратурнага значэньня перэкладу Лютэра. Дык „аковы лацінізму ў Заходняй Эўропе“ не былі такіе ўжо цяжкіе, як здаецца. — Добры канспэкт сьведчачы аб інтэнсыўным і экстэнсыўным развіцьці беларускага руху знайходзім у стацьці. І. Мелешкі „Беларуская работа ў 1917 гаду ў межах окупацыі“. Ілюстрацыей да гэтае стацьці ёсць ідучы за ёй выказ 8 „Беларускіх Грамадзкіх Организацый у Вільні“ (склад асабовы і адрэсы). Найцікавейшай рэчай усяго календара ёсць даўжэйшая праца пад назовам „На Беларусі пад Расеей“ (І. Беларусы—уцекачы. ІІ. Беларускі рух. ІІІ. Беларускі рух сярод беларускага каталіцкага духавенства). Сэрцэ цешыцца, калі чэлавек чытаеш, як на ўсходзе Беларусі паказалася пекная заранка і ясны дзень прарочыць. Там за фронтам да беларускай працы сталі і арганізаваліся кс. кс. Годлеўскі, Шолкевіч, Будзька, Бобіч, Хведзька, Лісоўскі, Лапошка і інш., таксама сьв. Разумовіч і інш., прэдстаўнікі вялікіх землеўласьнікаў, як кн. Радзівілл, Скірмунт, Войніловіч і інш., прэдстаўнікі навукі праф. Эпімах — Шыпілло, Міткевіч, людзі вольных прафэсый адв. адв. Чаўсоў, Рэут, Алексюк, др. Ерэміч, Уласоў, Кахановіч, Сэрбаў і шмат інш. Створэны цэлы сьцяг інстытуцый. Аўтару, што гэтулькі цікаўнага дае ў стацьці аб Беларусі пад Расеей я закінуўбы званьня Купальля „нацыональным беларускім сьвятам“. Беларускі народ у пераважываючай вялікшасьці, а праўдзівей траха ўвесь складаецца з верyючых каталікоў і праваслаўных і Купальля нацыональным сваім сьвятам яшчэ не абвешчаў. Гэта нам не перэшкаджае аднесьціся с пашанай да эстэтычнага (пекнага) боку гэтага паганскага звычаю. — Троху повастры таксама адзін сказ аб эндэках. „Цэннае адкрыцьце“ фактамі зьбівае і пераконывае шыраную злосьнікамі беларускага народу ману, быццам мова „Статуту Літоўскага“ была царкоўнаславянскай мовай. П. А. Н. з навуковымі доводамі ў руках зьбівае гэные закіды. Рэшта календара займае бэлетрыстыка: троху легенд — троху перэкладаў—усё з густам. Спісак школьных кніг і абвесткі канчаюць на апошку сёлетні беларускі календар.

Шчасьлівае дарогі!

Ад.

